Людміла Цінякова

# Дзівосы летняга лугу

Казкі








Мінск
«Мастацкая літаратура»
2012



## Цудоўныя пераўтварэнні

Нарэшце цуд здарыўся. Маленькая каўшанка[1], тая, у якую ператварыўся тоўсты вусень, лопнула, і з-пад яе цвёрдай лупінкі з'явіўся на свет матылёк з пакамечанымі крылцамі.

Праз колькі хвілін крылцы разгладзіліся, матылёк развёў іх у бакі, каб лепей абгледзецца і... узляцеў.

Ён і падумаць не мог, што можа лётаць. Яму ж так доўга даводзілася ляжаць пад сырым карчом, а яшчэ раней — поўзаць тоўстым вусенем і баяцца, каб не здзёўб жвавы верабей...

— Трэба ж... Я ўмею лётаць! — падумаў матылёк.

---

[1] Каўшанка — стадыя ў развіцці пасля вусеня.

Ён узняўся вышэй і ўбачыў мора прыгожых стракатых матылькоў. Тыя чамусьці не лёталі, а толькі гойдаліся. Матылёк наблізіўся.

— Ах, як смачна пахне! — падумаў ён і адразу зразумеў, што хоча есці.

— Чаму вы не лётаеце?

— Мы не лётаем, мы расцём. Лётаюць толькі матылькі і птушкі, а мы краскі.

— Ага! Значыць, я матылёк?

— Але! Але! — рознымі галасамі адказалі краскі.

— А што так смачна пахне?

— Мы пахнем! Выбірай сабе краску і сядай снедаць.

— Во як! — падумаў матылёк.

Красак было так шмат, што ён разгубіўся.

Пакружыўшы крыху над лугам, матылёк абраў сабе ладную красачку з жоўтым донцам і белымі пялёсткамі. Але на жоўтым дыванку нехта ўжо сядзеў у чырвоным каптанку, абсыпаным чорнымі гарошынамі і піў гарбату з маленькага кубачка.

— Ты хто? — спытаў матылёк.

— Я — божая кароўка,— адказала незнаёмая істота.

— А я матылёк…

Божая кароўка не паспела адказаць, бо вецер аднёс матылька далей. Тут таксама было шмат красак. Матылёк вельмі ўпадабаў блакітны званочак. Але не паспеў ён апусціцца ніжэй, як у званочак нырнуў нехта тоўсты паласаты і бахматы. Гэты нехта так сярдзіта бомкаў, што матылёк нават пабаяўся загаварыць з ім, толькі падумаў, што так нядоўга і без снедання застацца. І тут ён убачыў жоўтую духмяную красачку. Здавалася, што гэта маленькае сонейка.

Красачка ветла паківала галоўкай і запрасіла матылька да сябе. Матылёк прысеў на бераг жоўтага сподачка і ледзь не задыхнуўся ад шчасця: нектару было так многа і ён быў такі смачны!

— Дзякуй,— сказаў матылёк, калі паснедаў і абцёр лапкі ад залатога пылку.

— З днём нараджэння, матылёк!

— А як цябе завуць? — запытаў нараджэнец.

— Я дзьмухавец.

— Што значыць дзьмухавец?

— Скора ўбачыш.

Дзьмухавец і матылёк пасябравалі. Матылёк ужо добра ведаў увесь луг, але кожнай раніцы ён прылятаў да дзьмухаўца; краска гушкала яго на сабе і частавала духмяным нектарам.

Гэтай раніцы матылёк прачнуўся і, як заўсёды, надумаў ляцець да дзьмухаўца. Хацеў расказаць,

які цікавы сон яму прысніўся сёння ўночы. Ён падляцеў да краскі і... не пазнаў яе. Замест жоўтага сонейка на сцябліне красаваўся белы пушысты шар, падобны да маленькага воблачка. Матылёк падумаў: відаць, памыліўся. І ўжо меўся ляцець далей, як пачуў знаёмы голас.

— Не пазнаў мяне? Гэта ж я! Дзьмухавец.

— Што з табой? — здзівіўся матылёк.

— Ты ж таксама не заўсёды быў такім,— адказаў дзьмухавец.

І матылёк успомніў, як поўзаў тоўстым вусенем і ляжаў нерухомай каўшанкай.

— Чаму ты больш не пахнеш?

Дзьмухавец не паспеў адказаць матыльку. Наляцеў ветрык, і сотні маленькіх белых парашуцікаў узняліся ў неба.

— Бывай, дзьмухавец! Я так рады, што ты таксама ўмееш лётаць! Цяпер я ведаю чаму ты так называешся. Бывай, дружа!..

*Думаю, ты здагадаўся, мой маленькі, чаму не засмуціўся матылёк, што паляцеў яго найлепшы сябар? Ты ж і сам часам лётаеш. І ў сне, і ў марах. І ведаеш, як гэта цудоўна!*

*Бывай, дзьмухавец! Бывай, матылёк!*

## Пчолка Зіна

У пчолкі Зіны на летнім лузе быў свой кветнік. Пчолка старанна даглядала кожную красачку, змахвала пылок з лагодных пялёсткаў сваёй бахматай лапкай і цешылася, цешылася...

Асабліва прыгожымі краскі былі наранку. Пад срэбнай расой яны так і зіхацелі на сонейку. Зіна вельмі ганарылася сваім кветнікам.

Аднаго разу сяброўка запрасіла Зіну злётаць на канец вёскі: там зацвіла ліпа. Яна так прынадна пахла мёдам!

Пчолка яшчэ раз зірнула на свой кветнік, сказала красачкам, каб яны не сумавалі, і паляцела.

Калі Зіна вярнулася назад, то не пазнала свайго кветніка. Зямля на ёй паднялася і ператварылася ў невялікую горку, якая да таго ж яшчэ і рухалася.

Пчолка заплакала і стала кружыць вакол.

І тут з-пад зямлі вылез нехта ў чорным бліскучым футры.

— Укушу,— падумала Зіна.

— Ты чаго разбурыў мой кветнік?

— Кветнік? А што такое кветнік?

— Ты што не бачыш, якія тут раслі краскі?

— Не бачу. Я, бадай, зусім нічога не бачу.

— А ты хто? — запыталася пчолка.

— Я крот! Я жыву пад зямлёй. Мне нічога не трэба бачыць, бо пад зямлёй, каб і хацеў нічога не ўбачыш.

— І ты ніколі не бачыў красак?

— Ніколі!

— Як шкада! Хочаш, я раскажу табе якія яны прыгожыя.

Зіна выцерла слёзкі і стала расказваць.

— Даруй мне,— расчуліўся крот,— я не ведаў, што на зямлі ёсць краскі. Думаў, ёсць толькі зямля. Цяпер залезу ў сваю норку і больш не буду бурыць тваіх кветнікаў, бывай!

— Бывай,— празвінела Зіна і паляцела шукаць новага кветніка, бо нельга ж жыць і ні пра што не дбаць.

*А ты, маленькі, калі прыйдзеш на расцвілы луг, то ўбачыш, як пчолка Зіна змахвае з красак пылок. І, можа, нават знойдзеш земляную горку, бо не ўсе ж краты ведаюць, што на зямлі растуць краскі.*

## Страказа

Цудоўнымі пагоднымі дзянькамі насілася над лугам шмат стракоз. Усе яны займаліся важнай справай: лавілі шкодных гмызурак і адразу іх паядалі. Крылцы стракоз, празрыстыя, як шкло,

зацягнутае дробнай сетачкай, са свістам рассякалі паветра, а вялізныя круглыя вочы бачылі ўсё і спераду, і ззаду, і збоку.

Але неяк заляцела на луг з суседняй сажалкі дзівосная страказа. Яе крылцы, нібы з аксаміту, пераліваліся на сонцы глыбокімі сіне-зялёнымі колерамі. Страказа нікуды не спяшалася, быццам гаварыла: «Паглядзіце, якая я аздобная, як шапацяць мае аксамітныя крылцы, як блішчаць мае вочкі-кропелькі. Можна нават не сумнявацца, што я найлепшая на гэтым лузе!»

Але ўсе займаліся сваімі справамі. Аса рыла норку — ёй не было калі глядзець на страказу. Божая кароўка пералічвала свае чорныя бубачкі. А жук-дрывасек распраўляўся з кавалкам старога дрэва. Ніхто не глядзеў на красуню. І раптам! Страказа ўзмахнула сваімі чароўнымі крылцамі, але ўзляцець не змагла. Нечая рука яе накрыла.

— Ты пакамечыш мае цудоўныя крылы! — страпянулася страказа.

Але ніхто яе не пачуў.

— Маму, маму! Глянь якая красуня!

Мама падышла і сказала:

— Пусці яе! Гэта страказа. Я раскажу табе шмат цікавага пра яе.

Дзяўчынка растуліла пальцы, а страказа рынула вышэй, але далёка не паляцела. Ёй таксама карцела паслухаць. Яна ж, акрамя таго, што красуня, нічога пра сябе не ведала.

— Перш, чым прыляцець на гэты луг, страказа была лічынкай,— пачала сваю гаворку мама.— Яна жыла ў сажалцы на сцяблінцы і мела вялікія цяжкія сківіцы. Такія вялікія, што магла злавіць нават рыбчынага малька. І была яна зусім не красуняй, а, хутчэй, маленькім страшыдлам.

«Не можа быць»,— падумала страказа.

— А продкі гэтай страказы з'явіліся на зямлі раней за дыназаўраў. І былі яны памерам з вялікую птушку. Стракозы вельмі карысныя, бо яны палююць на камароў і іншых шкодных гмызурак.

— Як добра, што мы яе пусцілі! — сказала дзяўчынка.

А тым часам страказа шчаслівай вярталася на сваю сажалку і ганарылася, што яна не толькі прыгожая, але і карысная.

*Цяпер і ты, мой маленькі сябра, ведаеш гэта.*

## Улазіны

Сёння з раніцы на лузе мітусня. Рыжая мышпалёўка святкуе ўлазіны. Гаспадыня, у прыгожым фартушку з зялёнага лісточка, шчыруе на новай кухні, мышаняткі пішчаць і сварацца:

— Гэта мой пакойчык!

— Не, мой!

— Тук, тук, тук!

Першы госць прыйшоў. А дакладней сказаць — прыляцеў. Гэта верабей. Пёркі начышчаныя да бляску. А адно пёрка, найлепшае — у падарунак. Будзе коўдрачка маляўкам!

— Пяро натуральнае! Чы-чы-чы-сты пух!

— Дзякуй, верабей, мы якраз пра такое марылі, праўда, дзеці? Праходзь, калі ласка!

— Ква-ква-квашаная трава, сама гатавала.

— Як смачна пахне, дзякуй, сяброўка, напэўна, вельмі пі-пі-пікантна.

— Ква-ква-кваго яшчэ чакаем?

— Вожык абяцаў прыйсці. Ах, як бы пі-пі-пірагі не падгарэлі.

— Уф! Уф! Якія пірагі! Якая ты, суседка, гаспадыня! Ф-ф-фантастыка! Паглядзі, што я табе прынёс. Найлепшы мышыны гарошак з нашага лугу, сам выбіраў. З улазінамі!

Гэта вожык прытупаў.

— Прашу за стол, сябры, чай пі-пі-піць.

— Ква-ква-кватэра цудоўная!

— Тут і чы-чы-чыж пазайздросціць!

— Добра было б ф-ф-фатаграфію на памяць.

Ах, якое сёння цудоўнае свята на нашым лузе. Ніколі б такога не выйшла, каб не было ў палявой мышы гэтулькі сяброў.

*А ў цябе, маленькі, ёсць сябры? Бо без іх і свята не свята.*

## Лугавы канцэрт

Стары жужаль вельмі даўно жыў на гэтым лузе. Ён ведаў кожную дзірачку між карэння, кожную шчылінку. Каб зашыцца куды і ніхто там цябе не заўважыў. Жужаль ведаў усе мелодыі лугу: вось зумкае пчолка, вось шапаціць сухім лісцікам муравейка, а вось над лугам звініць жаваранак.

Але аднаго разу, у спякотны поўдзень, калі жужаль прылёг адпачыць у цянёк пад травінку, да яго данесліся новыя моцныя гукі. Жужаль павярнуўся, спрабуючы заснуць, але гукі нарасталі і нарасталі, зліваючыся ў мелодыю.

Жужаль не стаў нават думаць, добрая гэта мелодыя ці дрэнная — яна замінала спаць. Ён паспрабаваў зашыцца як мага глыбей пад карэнне, але гэта не дапамагло. Мелодыя не сціхала…

Тады ён вылез са схованкі. І што ж?

Якраз над ім, на травінцы, сядзеў зялёны конік і граў на скрыпачцы.

— Гэта яшчэ што такое? — узбурыўся стары буркун.

Конік нават вочак не расплюшчыў. Жужаль учапіўся лапкамі за травінку і стаў яе разгойдаваць — конік нічога не заўважаў.

А на красках і лісточках сядзелі слухачы і не зводзілі са скрыпача вачэй: мураш усміхаўся, жук-пажарнік шчасліва ззяў крылцамі, а чмель падпяваў басам.

Жужаль зразумеў, што нічога так не даб'ецца. Вярнуўшыся пад знаёмы карэньчык, ён стаў думаць, як пазбыцца няпрошанага музыканта. І, разважыўшы трохі, змеркаваў, што найлепш украсці ў яго скрыпку і схаваць, каб ужо ніколі не чуць гэтай музыкі.

Жужаль стаў чакаць, калі конік прагаладаецца і пакіне скрыпку, каб паесці і адпачыць. Але музыка гучала яшчэ доўга. Калі сонца ўзнялося высока над лугам і стала так горача, што нават краскі паапускалі свае галоўкі, конік змоўк.

Жужаль аж спужаўся тае цішыні, якая раптам настала. Ён ціхенька палез па травінцы, на якой толькі што сядзеў музыкант — срыпачкі нідзе не было. Жужаль зазірнуў пад лісцікі, пашукаў наверсе — усё дарма́. Ён так змарыўся, што не заўважыў, як спатыкнуўся са старым знаёмым — кавальком. Кавалёк быў, як заўжды, апрануты ў свой чорны камзол. Ён пстрыкнуў і спытаў:

— Што ты тут робіш у такую спёку?

Жужаль выцер пот і ўсё расказаў свайму знаёмаму. Кавалёк засмяяўся.

Некалі ён сам граў у лугавым аркестры на ўдарных інструментах і добра ведаў, як выглядае конікава скрыпка.

— Ты чаго смяешся? — спытаў пакрыўджана жужаль.

— Бо ты ніколі не зможаш забраць у коніка скрыпкі.

— Чаму гэта?

— Калі б ты ведаў, што конік трэ сабе бакі лапкамі з зазубрынкамі і гэтак выдае гукі, ты б не стаў шукаць скрыпкі.

— Не можа быць! — здзівіўся жужаль.

— Можа,— адказаў кавалёк,— я ж магу пстрыкнуць сваёй цудоўнай спінкай. Пстрыкнуўшы яшчэ раз напаказ, ён пабег.

Жужаль стомлена сеў пад лісток і пачуў, як пад суседняй травінкай мурашы абмяркоўвалі новы канцэрт.

— Цудоўна! Дзівосна! Пільна будзем чакаць другога аддзялення.

— Можа, я чагосьці не разумею? — падумаў жужаль і таксама ўзяўся чакаць другога аддзялення.

*А ты, маленькі, ці чуў, як натхнёна грае на скрыпачцы лугавы конік? Калі не, абавязкова папрасі маму і тату пайсці на квяцісты луг. Гэта так хораша ўсім разам слухаць музыку.*

## Маленькія асілкі

Учора над лугам прагрымела навальніца. Моцны вецер зблытаў траву, напужаў краскі. Яны дагэтуль баяцца расплюшчыць свае вочкі.

Маленькі мураш высунуўся з мурашніка зірнуць, ці не пашкодзіў вецер іх дому. Але дом зроблены моцна, і з ім нічога не здарылася.

— Пайду гляну. Што там у суседзяў...

І пабег па маленькай сцяжынцы сярод зялёнай травы.

Аж раптам чуе. Нехта ціхенька плача.

Разгледзеўся муравейка і бачыць: валяецца жук, дагары лапкамі, а на ім тоўстая галінка.

— Што здарылася, жуча?

— Галінкай прыціснула. Відаць, давядзецца пад ёй паміраць.

— Што ты, жучочку, зараз я табе памагу!

— Як ты можаш мне памагчы! Ты такі маленькі, а галіна такая вялікая. Ніхто мне не дапаможа.

— Пацярпі крышачку,— сказаў мураш і хуценька пабег да мурашніка.

— Гэй, браточкі, вылазьце! Жук у бяду трапіў. Трэба ратаваць!

Набегла мурашоў, падхапілі яны вялікую галіну маленькімі лапкамі з усіх бакоў, напружыліся:

— Раз, два! Раз-два! — і зрушылі галінку!

Вылез вялікі жук, глядзіць на мурашоў і думае:

— Як разам, дык і маленькія мурашы вялікая сіла!

*І ты, мой маленькі сябра, заўжды памятай пра тое, што ў грамадзе сіла.*

## Пляніца[1]

Канчалася цудоўнае цёплае лета. Адцвілі на лузе краскі. Адны з іх ператварыліся ў цвёрдыя каробачкі, другія ў доўгія стручкі, а трэція зусім сталі лёгкім пухам і меліся ўпасці на зямлю, каб навесну зноў распусціцца ў родным лузе.

Якраз пад тую пару з'явіўся на лузе дзіўны незнаёмы. Першым яго заўважыў матылёк. Больш за ўсё матылька ўразіў крыж на спіне ў новага суседа.

— Добры дзень,— сказаў матылёк.— Давай пазнаёмімся!

Але незнаёмы змоўчаў і толькі злосна бліснуў маленькімі вочкамі, а тады стаў хуценька снаваць паміж сухімі сцяблінкамі.

Зараз адусюль паназбіралася гледачоў. Усім было цікава, што за сусед пасяліўся побач і што ён такое робіць. Неўзабаве стала ясна: незнаёмы

[1] Пляні́ца — пастка, сіло.

пляце сетку, і тая ўсё большае і большае. Толькі незразумела, дзеля чаго яна.

Да здзіўленага натоўпу далучыўся мураш.

— Што такое? Чаго вы тут пазбіраліся?

— От хочам пазнаёміцца з новым суседам,— адказалі гмызуркі.

Мураш зірнуў угору і трывожна крыкнуў:

— Усе заставайцеся на месцы! Гэта павук-крыжавік. Ён ладзіць на нас пляніцу. Кожны, хто ў яе трапіць, жывым не выберацца.

А тым часам з суседняга куста зляцеў сухі лісток і ўпаў акурат на павуціну. Моцная сетка нават не здрыганулася, а ліст застаўся вісець на ёй, як прыклееены.

Павук-паляўнічы схаваўся пад травінку і стаў чакаць здабычы. Толькі вочкі нядобра зыркалі ад нецярпення.

Усіх абняў страх. Божая кароўка страціла прытомнасць і ўпала на спінку, у матылька дрыжэлі крылцы, а маленькая лугавая мушка вельмі хвалявалася, бо сёння да яе ў госці мелася прыляцець зялёная муха. Яна нічога не ведае пра страшную пляніцу і можа ўблытацца туды.

— Што ж рабіць, што чыніць? — плача мушка.

— Не варушыцеся,— сказаў мураш,— я паспрабую нешта прыдумаць.

І ён кулём кінуўся да знаёмага жука, якога разам з сябрамі-мурашамі выратаваў некалі з-пад галінкі.

Жук выслухаў мураша і адразу ж паляцеў туды, дзе чакалі яго гмызуркі, ледзь жывыя ад страху.

Ён адважна кінуўся на павуціну, але тая толькі крышку надарвалася. Жук доўга насіўся туды і сюды. Ён раз за разам рэзаў павуціну моцнымі крылцамі, пакуль ад тае нічога не засталося. Ніхто і не заўважыў куды знік страшны павук.

Доўга не маглі апрытомець перапалоханыя гмызуркі. Аднак яны былі вельмі ўдзячныя і моцнаму адважнаму жуку, і маленькаму кемліваму мурашу.

А яшчэ яны зразумелі, як гэта важна жыць у таварыстве і згодзе.

*Бо толькі так, мой маленкі сябар, можна адолець усякую бяду.*

## Бузіна

Пасярод квяцістага лугу расце красуня-бузіна. Кожнай вясною яна цешыць і людзей, і звяроў, і птушак белымі буйнымі кветкамі. А летняю спёкай можна схавацца ў цень пад бузіною і адпачыць у халадку.

Неяк раз ляцеў над лугам стары верабей. Стаміўся ён, заўважыў бузіну і здумаў прысесці на зялёную галінку.

— Прывітанне, бузіна, якая ты прыгожая!

— За гэта *табе* трэба дзякаваць! — адказала бузіна.

— А я тут прыч-ч-чым? — зачырыкаў здзіўлены верабей.— Мы з табой першы раз ба-чы-чы-чымся!

— Калі б не ты, не расла б я на гэтым лузе.

— Гэта яшч-ч-чэ ча-ча-чаму?

— А ты не памятаеш таго дня, калі сарваў ягадку на ўзлеску і панёс яе ў сваё гняздзечка, ды не данёс, бо тая ягадка, якраз на лузе, і выпала? З ягадкі я і вырасла.

— Выходзіць, я цябе пасадзіў?

— Выходзіць, так.

Узрадаваўся верабей, адкуль і сілы ўзяліся. Зачырыкаў, як малады:

— Чу-чу-чуеце! Гэта я бузіну пасадзіў!

Дый як тут не ганарыцца, калі справа, якую ты зрабіў, усім карысць і радасць прыносіць.

*Добра, маленькі, калі і ты гэта разумееш.*

## Дом

Маленькі чорны жучок, падобны да бліскучай чорнай кропелькі, з'явіўся на свет у найлепшую пару года. Усё вакол цвіло, дыхала цяплом і радасцю. Кожная красачка прапаноўвала свой пачастунак, а цёплы ветрык не даваў ні хвілінкі спакою, усім прапаноўваючы гуляць у даганялкі.

Здавалася, шчасце будзе бясконцым. Жучок ні пра што не думаў, нават пра тое, хто ён і як яго завуць.

А час усё бег і бег. Квяцісты луг пажаўцеў, пазнікалі духмяныя краскі, якія цэлае лета кармілі жучка салодкім нектарам.

Спаць між каранёў травы было ўжо халаднавата, і жучок паляцеў на ўскраек лугу, дзе стаяў вялізны стары дуб. Ён залез на самую высокую галінку, бліжэй да сонца, прылёг на пажаўцелы лісток і не мог зразумець, чаму ўсё так памянялася. У ягоным жыцці яшчэ не было восені.

Пад раніцу прыляцеў халодны паўночны вецер. Жучок ужо і не марыў заснуць, ён думаў толькі пра тое, як не зваліцца з лістка. А з вышыні так далёка відаць! Вунь, у вёсцы з комінаў пайшоў блакітны дым. Ах! Як, напэўна, цёпла ў гэтых дамах!

Ад думкі, што ў яго няма дома, няма смачнай ежы, а вакол так няўтульна і халодна, жучок заплакаў. Тым часам моцны вецер сарваў лісток з дрэва, і наш знаёмы апынуўся на зямлі сярод сухога лісця і жухлай травы.

Жучок зусім разгубіўся. І раптам убачыў цудоўны карычневы жалудок. Ён быў такі прывабны: вялікі, гладкі, і так нагадваў маленькі дамок, усё роўна, як тыя, што ў вёсцы. Нават дах у яго быў, як у сапраўдным доме. От толькі дзвярэй нідзе не было. Некалькі разоў жучок з усіх бакоў абгледзеў

жалудок — усё марна. Тады ён сеў, задумаўся і тут зразумеў: дагэтуль ён карыстаўся ўсім гатовым і нічога не рабіў сам.

— Паспрабую хоць дзверы прарэзць! — падумаў жучок і стаў грызці цвёрдую лупінку жалуда. Дзверы выйшлі цудоўныя: круглыя, не вялікія і не малыя, якраз каб улезці.

Жучок нырнуў у новы дом і ахнуў — колькі там ежы! Ён смачна паснедаў, лёг і адразу моцна заснуў.

Цяпер ён не баіцца ані халоднага ветру, ані снегу, ані голаду.

Як жа ў пару наш жучок знайшоў сабе дом! Бо калі з дуба асыпаюцца сухія лісты, значыць, зараз прыйдзе зіма.

*Такі закон прыроды, мой маленькі.*

## Луг рыхтуецца да зімы

От і пажаўцеў наш цудоўны луг! Паснулі кветкі да наступнай вясны. Не зумкаюць над ім пчолкі. А ўчора прылятаў паўночны вецер і сказаў, што неўзабаве надыдзе сівая зіма.

А табе, мой маленькі сябра, пэўна ж, хацелася б даведацца, як маюцца нашы знаёмыя, пра якіх расказаў нам летні луг?

Давай наведаем луг і будзем зычыць яго жыхарам мяккай зімы.

Бачыш, вунь пад апалым лісцем мурашнік. І вокны і дзверы ў ім пазачыняныя. Не будзем турбаваць гаспадароў. Адпачывайце да вясны, мурашы!

Збіліся ў вялізны клубок і часта-часта махаюць клылцамі, грэюцца, у дупле высокага дрэва пчолы. Тыя, што стаміліся — залазяць у самую сярэдзіну клубка і адпачываюць. Вунь, разам з усімі махае крылцамі пчолка Зіна. Цэлае лета яна збірала мёд і цяпер не замерзне, бо мае чым падсілкавацца.

Рыжая палявая мыш выгадавала сваіх мышанят і цяпер дае ім апошнія наказы, як самастойна перабыць халодную доўгую зіму, а дарослыя мышаняты-палёўкі цягаюць у свае норкі-схованкі спелыя зярняты — зімой жа на снезе нічога не расце.

Верабей паляцеў бліжэй да чалавечага жытла — там нават зімой можна пракарміцца. І ад ветру ёсць дзе схавацца.

Пад старым карчом, у ложку з сухога лісця скруціўся ў клубок калючы вожык, а пад кару гэтага самага карча пахаваліся жукі.

Жабка залезла пад камень. Што ні дзень — цела яе ўсё халаднее і халаднее. А як надыдуць маразы, жабка ператворыцца ў лядзяш, каб потым вясной прачнуцца і шчасліва сказаць:

— Ква-ква! Як мне добра спалася!

Матылькі старанна пасkладвалі свае крылцы і таксама пахаваліся хто ў сухой траве, хто ў лістоце. Недалёка ад іх спіць конік.

Усім ім сніцца квяцісты летні луг, які і сам зараз засне пад белай снегавой коўдрай. Але гэта будзе ўжо іншая гісторыя.

*Да новай сустрэчы, мой маленькі сябра!*



# ЗМЕСТ

